Інфармацыйны бюлетэнь • № 6/99 •

# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ
МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ
АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМА-КАТАЛІЦКАГА
КАСЦЁЛА



## Бог ёсць любоў



*Пілігрымка Святога Айца Яна Паўла II у Польшчу вачыма беларусаў — стар. 4–5*

**У нумары:**



# Пастырскае пасланне

## перад V сесіяй Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі

*«Няхай Цябе, Божа, праслаўляюць народы, няхай усе народы аддаюць Табе хвалу»*
*(Пс 67(66), 6).*

Дарагія дыяцэзіяне!

На першых чатырох Пленарных Сесіях Сінод Мінска-Магілёўскай і Пінскай дыяцэзіі прыняў рашэнне зацвердзіць статуты аб "Агульных нормах" і "Пакліканні і пасланніцтве свецкіх вернікаў у Касцёле і свеце", аб "Сужэнстве і сям'і", аб "Пакліканні да святарства і пастаяннай фармацыі святароў" і аб "Інстытутах кансэкраванага жыцця і Супольнасцях апостальскага жыцця", а таксама аб "Місійнай Справе Касцёла".Такім чынам, былі апрацаваны тэмы, якія ахопліваюць увесь люд Божы мясцовага Касцёла Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

Цяпер Сінадальныя Супольнасці пад кіраўніцтвам Каардынацыйнай Камісіі Сіноду апрацавалі тэму, унутрана звязаную з сутнасцю Касцёла, а менавіта – "Літургія, сакральнае будаўніцтва, санктуарыі ў жыцці Касцёла" – і прапанавалі яго абмеркаваць і прыняць адпаведныя сінадальныя пастановы на пятай Пленарнай Сесіі Сіноду, якая адбудзецца 21-22 чэрвеня 1999 года ў Бабруйску.

ІІ Ватыканскі Сабор, шукаючы формаў адновы духоўна-рэлігійнага жыцця, звярнуўся да прыкладаў Касцёла першых стагоддзяў хрысціянства, якія з самага пачатку фармаваліся вакол Літургіі. Першая Канстытуцыя Сабору "Sacrosanctum Concilium" 1963 года прысвечана менавіта аднове літургічнага жыцця. Літургія, як падкрэслівае Касцёл у гэтай Канстытуцыі, – гэта рэчаіснасць, схаваная святымі знакамі, у якіх Хрыстус праз Святога Духа асвячае нас і адначасова Хрыстус уводзіць усю супольнасць Касцёла ў праслаўленне Айца праз Сына ў еднасці з Духам Святым.

Праз Літургію здзяйсняецца справа Адкуплення людзей і дасканалае праслаўленне Бога, таму Літургія як "справа Хрыста-Святара і Яго Цела, гэта значыць Касцёла, з'яўляецца дзейнасцю святой у самай высокай ступені" (KL 7), таму з'яўляецца вяршыняй, "да якой скіравана дзейнасць Касцёла, і адначасова з'яўляецца крыніцай, з якой выплывае ўся яго моц" (KL 10).

Літургію складаюць Найсвяцейшая Ахвяра – Эўхарыстыя і іншыя сакрамэнты, а таксама Літургія Гадзінаў і Сакрамэнталіі. З Літургіяй звязаны таксама і розныя набажэнствы, якія ў пэўнай ступені выплываюць з яе і вядуць да яе вернікаў (KL 13). Канстытуцыя "Sacrosanctum Concilium" падкрэслівае, аднак, паміж імі розніцу, акрэсліваючы Літургію як "уласную" малітву Касцёла, а набажэнствы як прапанаваную, зацверджаную, ухваленую малітву. Літургія і набажэнствы не толькі могуць і павінны суіснаваць. Набажэнствы ж з'яўляюцца значнай дапамогай у выхаванні вернікаў да малітвы. Безумоўна, Літургію і набажэнствы трэба справаваць так, каб дапамагчы вернікам адкрыць прысутнага ў Касцёле Хрыста Пана, і каб яны праз містэрыю святых знакаў асабіста сустракалі Яго на шляху веры і атрымлівалі паўнату багацця Яго ласкі.

Абмяркоўваючы тэму Літургіі, нельга абмінуць тэму сакральнага будаўніцтва і санктуарыяў у жыцці Касцёла.

Будынак касцёла з яго ўнутраным убранствам з'яўляецца Домам Божым, святым месцам, дзе павінны панаваць атмасфера пашаны, парадак, чысціня, прыгажосць, цішыня, а таксама рэлігійны спеў і музыка. У касцёле ж у Божай Эўхарыстыі заўсёды прысутнічае Езус Хрыстус і ў ім справуецца Літургія і набажэнствы.

Вялікае значэнне ў літургічным жыцці маюць санктуарыі, якія дзякуючы ўкаранаваным папскімі каронамі цудоўным абразам Маці Божай, прыцягваюць шматлікіх пілігрымаў да гэтых святых мясцін. Праз удзел у пілігрымках, часам вельмі далёкіх і пакутлівых, у Св.Імшы, праз прыняцце Святой Камуніі і іншых Сакрамэнтаў, а таксама праз асаблівыя набажэнствы наведванне Санктуарыя становіцца збавеннай магчымасцю для духоўных літургічных перажыванняў, а значыць і для ажыўлення рэлігійнага жыцця.

У разважаннях аб Літургіі звяртаем увагу таксама на унутраную і знешнюю небяспеку, якая сёння пагражае літургічнаму жыццю.

Небяспека знешняя гэта ўжо не пераследаванне ці забарона, гэта не яўная атэістычная прапаганда, але напоўненасць святочных дзён справамі гэтага свету – гандлем, гуляннямі, забавамі, захапляльнымі тэлевізійнымі рэкламамі, папулярызацыяй такіх свецкіх "святаў", як: свята працы, свята жанчын; наданне свецкіх формаў рэлігійным святам. Такім чынам, з хрысціянскіх святаў выключаецца літургічна-рэлігійная глыбіня, а застаецца толькі знешняя святочная шыльда, свята душы замяняецца на свята цела.

Аднак не менш пагражае рэлігійнаму жыццю духоўная небяспека, якая вынікае з засяроджанасці толькі на знешняй, тэхнічнай рэформе Літургіі у выглядзе новых кніг, новых прадпісанняў, перакладаў на нацыянальныя мовы і г.д. Аднак у справаванай Літургіі не хапае тэалагічнай глыбіні, духоўнага перажывання святых містэрый Касцёла.

Літургія ў новым сабаровым убранстве з'яўляецца мажлівасцю, а ў выніку і эфектыўнасцю адновы хрысціянскага жыцця. Літургія ж з'яўляецца "шэдэўрам Духа Святога і Касцёла", пераказам жывой веры і аўтэнтычнай тэалогіі Касцёла. Літургічнае жыццё, супольная малітва, а перадусім Эўхарыстыя з'яўляюцца істотным цэнтрам поўнага хрысціянскага жыцця і ўсяго апостальскага дынамізму ў сучасным Касцёле.

На заканчэнне разважанняў у гэтым пастырскім пасланні падкрэслю, што абавязкова трэба прыкладаць усе намаганні, каб Літургія сапраўды была "крыніцаю і вяршыняю" хрысціянскага жыцця ва ўсіх парафіях нашых дыяцэзій.

На гэтую нашую супольную праведную справу шчырым сэрцам благаслаўляю.

***Кардынал Казімір СВЁНТЭК,***
*Арцыбіскуп,*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*Апостальскі Адміністратар*
*Пінскай дыяцэзіі*



# List pasterski

## przed V Sesją Plenarną Synodu Archidiecezji Mińsko-Mohylewskiej i Diecezji Pińskiej

*«Niech Ciebie, Boże, wysławiają ludy,*
*niech wszystkie narody dają Ci chwałę»*
*(Ps 67 (66), 6).*

Drodzy Diecezjanie!

Synod Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej na swych pierwszych czterech Sesjach Plenarnych powziął decyzje w formie uchwalenia statutów o "Normach ogólnych" i "Powołaniu i posłannictwie wiernych świeckich w Kościele i świecie", o "Małżeństwie i Rodzinie", o "Powołaniu do kapłaństwa i formacji stałej kapłanów" i o "Instytutach życia konsekrowanego i Stowarzyszenia życia apostolskiego", oraz o "Dziele Misyjnym Kościoła". W ten sposób opracowane zostały tematy, ogarniające cały lud Boży w partykularnym Kościele Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej.

Obecnie Zespoły Synodalne pod kierownictwem Komisji Koordynacyjnej Synodu opracowały temat, wewnętrznie związany z naturą Kościoła, a mianowicie: "Liturgia, budownictwo sakralne, Sanktuaria w życiu Kościoła" i przedłożyły go do rozpatrzenia i przyjęcia odpowiednich uchwał synodalnych na piątej Sesji Plenarnej Synodu, która odbędzie się w dniach 21-22 czerwca 1999 roku w Bobrujsku.

Sobór Watykański II szukając modelów odnowy życia duchowo-religijnego, sięgnął do wzorów Kościoła pierwszych wieków chrześcijaństwa, które od początku kształtowało się wokół Liturgii. Pierwsza soborowa Konstytucja "Sacrosanctum Concilium" z 1963 roku poświęcona jest właśnie odnowie życia liturgicznego. Liturgia, jak podkreśla Kościół w tej Konstytucji, to rzeczywistość osłonięta świętymi znakami, w których Chrystus przez Ducha Świętego dokonuje naszego uświęcenia i równocześnie Chrystus wprowadza całą wspólnotę Kościoła w uwielbienie Ojca przez Syna w jedności z Duchem Świętym.

Poprzez Liturgię dokonuje się dzieło Odkupienia ludzi i doskonałe uwielbienie Boga, stąd też Liturgia jako "dzieło Chrystusa-Kapłana i Jego Ciała, czyli Kościoła, jest czynnością w najwyższym stopniu świętą" (KL 7) i dlatego stanowi szczyt "do którego zmierza działalność Kościoła i jednocześnie jest źródłem, z którego wypływa cała jego moc" (KL 10).

Liturgię stanowią Najświętsza Ofiara – Eucharystia i inne Sakramenty, oraz Liturgia Godzin i Sakramentalia. Z Liturgią wiążą się też różne nabożeństwa, które z niej poniekąd wypływają i do niej wiernych prowadzą (por. KL 13). Konstytucja "Sacrosanctum Concilium" podkreśla jednak między nimi różnicę, określając Liturgię jako modlitwę "własną" Kościoła, a nabożeństwa jako modlitwę zalecaną, zatwierdzaną, pochwalaną. Liturgia i nabożeństwa nie tylko mogą i powinne współistnieć, ale też nabożeństwa są znaczną pomocą w formowaniu wiernych do modlitwy i zadań apostolskich. Oczywiście Liturgię i nabożeństwa trzeba sprawować tak, by wiernym pomóc odkryć obecnego Chrystusa Pana w Kościele i by oni przez misteria świętych znaków spotykali Go osobiście na drodze wiary i dostępowali całego bogactwa Jego łaski.

Omawiając temat liturgiczny nie można pominąć budownictwo sakralne i Sanktuaria w życiu Kościoła.

Budynek kościoła z wystrojem jego wnętrza stanowi Dom Boży, miejsce święte, w którym powinny panować powaga, porządek, czystość, piękno, cisza, jak też śpiew i muzyka o tematyce religijnej. Wszak w kościele stale przebywa Jezus Chrystus w Boskiej Eucharystii i w nim sprawuje się Liturgia i odprawiają się nabożeństwa.

Wielką rolę w życiu liturgicznym odgrywają Sanktuaria, które dzięki ukoronowanym koronami papieskimi cudownym obrazom Matki Bożej przyciągają bardzo licznych pielgrzymów do tych miejsc uświęconych szczególnym działaniem. Przez uczestniczenie w nieraz bardzo dalekich i uciążliwych pielgrzymkach, przez udział we Mszy świętej, przyjęcie Komunii świętej i innych Sakramentów, oraz poprzez szczególniejsze nabożeństwa, nawiedzenie Sanktuarium staje się zbawienną okazją do duchowych przeżyć liturgicznych, a tym samym i do ożywienia życia religijnego.

W rozważaniach o Liturgii nie można nie zauważyć zagrożeń i zewnętrznych, i wewnętrznych, jakie w obecnych czasach dotyczą życia liturgicznego.

Zagrożenia zewnętrzne to już nie prześladowania, zabraniania, to nie otwarta propaganda ateistyczna, ale zapełnianie dni świątecznych sprawami tego świata, jak: handlem, festynami, rozrywkami, atrakcyjnymi programami telewizyjnymi, lansowanie świeckich "świąt", jak święto pracy, święto kobiet, nadawanie laickich form świętom religijnym, jak "Gwiazdka", "Walentynki". W ten sposób eliminuje się z chrześcijańskich świąt głębię liturgiczno-religijną, zostawiając tylko zewnętrzny szyld świąteczny, zamienia się święta dusz na święta ciał.

Nie mniej jednak niebezpiecznym dla życia liturgicznego są zagrożenia wewnętrzne, wynikające z poprzestawania na tylko zewnętrznej, technicznej reformie Liturgii, w postaci nowych ksiąg, nowych przepisów, tłumaczeń na języki ojczyste itp. Często zaś w sprawowanej Liturgii brak pogłębienia teologicznego, wewnętrznego przeżywania świętych misteriów Kościoła.

Możliwością, a w następstwie i skutecznością odnowy życia chrześcijańskiego jest Liturgia w nowej szacie soborowej. Wszak Liturgia jest "arcydziełem Ducha Świętego i Kościoła", przekazem żywej wiary i autentycznej teologii Kościoła. Życie liturgiczne, wspólna modlitwa, a przede wszystkim Eucharystia, stanowią istotny ośrodek pełnego życia chrześcijańskiego i całego dynamizmu apostolskiego we współczesnym Kościele.

Jako wniosek końcowy rozważań w tym liście pasterskim należy stwierdzić, że trzeba koniecznie dokładać wszelkich starań, aby Liturgia rzeczywiście była "źródłem i szczytem" chrześcijańskiego życia wszystkich wiernych we wszystkich parafiach naszych diecezji.

Na to nasze wspólne zbożne dzieło z serca błogosławię.

***Kazimierz Kardynał ŚWIĄTEK***
*Arcybiskup Metropolita*
*mińsko-mohylewski*
*Administrator Apostolski*
*Diecezji pińskiej*

# Няма салідарнасці без любові

## *Ян Павел II у Гданьску і Торуне*



З 5 па 17 чэрвеня 1999 года Святы Айцец Ян Павел II знаходзіўся з Апостальскім візітам на радзіме. З гэтай нагоды тысячы пілігрымаў з Беларусі прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях, звязаных з візітам.

Вядома, што большасць беларускіх пілігрымаў сустракалася з Папам у Элку, Седльцах, Варшаве і Драгічыне – гарадах, якія знаходзяцца найбліжэй да мяжы з нашай краінай. Тым больш цікава даведацца, як праходзіў візіт Святога Айца ў паўночную і цэнтральную часткі краіны, што значна адрозніваюцца ад прылеглых да мяжы з былым СССР тэрыторыяў.

Гістарычныя Гданьск (Данцыг) і Сопат доўгі час знаходзіліся пад нямецкім панаваннем. Адзначым, што панаванне гэта было пераважна мірным, бо ўжо ад пачатку сваёй тысячагадовай гісторыі ён быў нямецка-нідэрландскім горадам. Гэта адзін з самых вядомых гарадоў сярэднявечнай "Ганзы" – саюза балтыйскіх местаў, куды ўваходзілі таксама Гамбург і Рыга. З імі, дарэчы, гандляваў Полацк. Пасля II сусветнай вайны Гданьск, паводле Патсдамскіх пагадненняў, быў аддадзены камуністычнай Польшчы. У выніку большасць нямецкага насельніцтва высялілі ў Заходнюю Германію, а іх месца занялі перасяленцы з поўдня Польшчы, а таксама з Заходняй Беларусі і Украіны. Пасляваенная гісторыя Гданьска звязана перадусім з дзейнасцю "Салідарнасці" і асобай першага некамуністычнага прэзідэнта – Леха Валэнсы. Гданьскую верф сёння называюць калыскай "Салідарнасці". Тут у 1970 г. адбыўся расстрэл рабочых верфі, а ў 1979 і 1989 гг. прайшлі страйкі, якія прывялі спачатку да ўзнікнення, а потым і да канчатковай перамогі "Салідарнасці".

Пасля гэтага кароткага экскурсу ў гісторыю, напэўна, зразумела, чаму Святы Айцец распачаў сваю VII пілігрымку на радзіму менавіта з Гданьска: тут знаходзіцца сэрца Новай Польшчы, якая ачуняла ад шматгадовага зняволення і тут слова Святога Айца сёння найбольш патрэбнае. У 1979 г. Святы Айцец сказаў: *"Чалавека немагчыма да канца зразумець без Хрыста. А дакладней: чалавек не можа сам сябе да канца зразумець без Хрыста. І таму Хрыста немагчыма выключыць з дзейнасці чалавека ў любым месцы Зямлі. Немагчыма таксама без Хрыста зразумець гісторыі Польшчы…"* І праз чатырнаццаць месяцаў паўстала "Салідарнасць".

5 чэрвеня Святы Айцец у сваёй гаміліі ў Сопаце (адным з гарадоў т.зв. Труйміста: Гданьск, Гдыня і Сопат) адзначыў, што *"нельга забыць пра мучаніцтва, якое суправаджала дзеі гэтай зямлі, пачынаючы ад св. Войцеха, нельга забыць і тых з Вэстэрпляттэ, і тых, што загінулі ў канцэнтрацыйных лагерах і ў часы камуністычнай дыктатуры".* Ці не з'яўляюцца гэтыя словы і для нас знакам таго, што мы павінны даць свету новае сведчанне, што кожны з нас ёсць соллю зямлі, незалежна ад таго, дзе ён працуе ці вучыцца?

У Сопаце Святы Айцец сардэчна прывітаў кашубаў – спрадвечных жыхароў зямлі Памор'я. Гэты народ адрозніваецца ад палякаў сваёй мовай і культурай, але ніколі не дамагаўся палітычнай аўтаноміі ці незалежнасці. Святы Айцец заклікаў кашубаў не зракацца нацыянальнай адметнасці, а старанна яе захоўваць, бо гэта – скарб усяго чалавецтва. Кашубы ўдзячна віталі Святога Айца нацыянальным спевам у выкананні шматлікай капэлы.

Амаль усе будынкі, якія знаходзіліся паблізу месца спаткання са Святым Айцом былі ўпрыгожаныя сцягам Ватыкану, або гербам Святога Айца, або польскім нацыянальным сцягам. Усё гэта сведчыць аб тым значэнні, якое палякі надаюць візіту Святога Айца ў іх краіну. На сустрэчы ў Сопаце прысутнічаў увесь палітычны істэблішмент Польшчы: былы прэзідэнт, а цяпер спікер Сенату Рэспублікі Польшча Лех Валэнса, сённяшні прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі, старшыня правячай кааліцыі АВС "Салідарнасць" – Мар'ян Кшаклеўскі. Іх прысутнасць пацвердзіла нацыянальную еднасць палякаў і іх нязменную прыхільнасць да хрысціянства, якое ўвасабляе каталіцкі Касцёл.

Па сваёй архітэктуры Торунь падобны да Гданьска, бо таксама досыць доўгі час быў пад нямецкім панаваннем. Тым не менш тут здаўна жывуць пераважна палякі, таму пасля аднаўлення ў 1918 г. незалежнай польскай дзяржавы Торунь апынуўся ў яе межах. Велічныя касцёлы ў гатычным стылі разам з гарадскімі валамі надаюць яму асаблівае хараство. Торунь лічыцца таксама універсітэцкім горадам – у ім каля 50 000 студэнтаў.

Сустрэча ў Торуні, якая адбылася 7 чэрвеня, была прысвечана пераважна дзейнасці маладой Торуньскай дыяцэзіі, створанай у 1992 г., асабліва ж – ушанаванню Слугі Божага кс. Стэфана Вінцэнта Фрэліхоўскага, вязня і мучаніка фашысцкага канцлагера Дахау. Вынясеннем кс. Фрэліхоўскага да хвалы алтароў Святы Айцец яшчэ раз засведчыў, што каталіцкі Касцёл высока ацэньвае мучаніцтва святароў у часы існавання таталітарных рэжымаў апошняга стагоддзя. У нас таксама ёсць нясплачаны доўг перад тымі святарамі і свецкімі католікамі, якія былі закатаваныя ў сталінскіх і фашысцкіх лагерах, у Курапатах і Катыні.

У праграме візіту Папы ў Торунь было чэрвеньскае набажэнства. Яно дало вернікам магчымасць супольнай засяроджанай малітвы разам са Святым Айцом перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам. Адарацыя дазваляе найглыбей пазнаць таямніцу Ахвяры, якую Пан Езус штодзённа прыносіць за нас на кожнай Імшы. Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту разам з Галавой Паўсюднага Касцёла дае магчымасць адчуць тое адзінства, якое маюць Хрыстус і заснаваны ім Касцёл. Літанія да Сэрца Пана Езуса дазваляе кожнаму верніку ў думках аб'яднацца з Панам, увайсці ў Яго сэрца. Пяцьсот тысяч чалавек на адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту – вось выраз "эканомікі" Збаўлення!

Увогуле, наўрад ці магчыма перадаць атмасферу гэтай падзеі, той запал і ўзнёсласць, пачуццё нацыянальнай еднасці палякаў. Але, здаецца, у нашых сілах гэтак пераўтварыць сваю краіну, каб і мы маглі адчуваць падобнае. Адновім усё ў Хрысце!

***Алесь СТРАЛЬЦОЎ***

*Фота: «Gwiazda morza»*

# Урачыстасць на зямлі Падляшскіх мучанікаў

Каля тысячы пілігрымаў з Беларусі прынялі ўдзел у малітоўнай сустрэчы са Святым Айцом Янам Паўлам II у Седльцах падчас яго апостальскага візіту у Польшчу 10 чэрвеня 1999 г. Сярод нашых пілігрымаў была таксама вялікая група грэка-католікаў – каля 150 чалавек. Сёння яны з'яўляюцца спадкаемцамі падляшскіх мучанікаў-уніятаў, уша-



наванню якіх была прысвечаная урачыстая Святая Імша на Седлецкіх Палях. Алтарны подыум вышынёй 7,5 м меў форму літары "U" – якой пачынаюцца словы "УНІЯ", "УНІЯТЫ". З тыльнага боку алтара 30-метровы крыж быў увянчаны надпісам "БОГ ЁСЦЬ ЛЮБОЎ". Паўмільёна католікаў з Польшчы, Украіны, Беларусі, Расіі і Казахстана змаглі маліцца разам з Галавой свайго Касцёла, з любові да якога аддалі свае жыцці мучанікі з Пратуліна, апекуны гэтай зямлі.

"Умілаваны Ойча Святы, ты на зямлі, якую Уладыслаў Рэймант апісвае так: "Пару тыдняў ездзіў па гэтых ціхіх, ахінутых меланхоліяй і дзіўным смуткам землях, дзе кожная вёска цэлыя дзесяцігоддзі была нездабытай крэпасцю, кожная хаціна – акопам, які змагаўся да апошняга дыхання і кожны чалавек – адважным барацьбітом за святую справу", – так пачаў сваё прывітальнае слова біскуп Седлецкі Ян Віктар Новак. Благаслаўлёныя Вінцэнт Леванюк і яго 12 паплечнікаў, простыя сяляне – мужныя абаронцы сваёй веры. Яны былі расстраляныя 23 студзеня 1874 г. каля парафіяльнай царквы ў весцы Пратулін на Падляшшы, якое тады ўваходзіла ў склад Холмскай грэка-уніяцкай дыяцэзіі. Акцыя далучэння падляшскіх уніятаў да "казённага праваслаўя" пачалася з увядзення расійскага сінадальнага абраду, а канчатковае "уз'яднанне" наступіла пасля трагедыі ў Пратуліне. Рэлігійны ўціск падляшскіх уніятаў працягваўся яшчэ сорак гадоў – да царскага талеранцыйнага ўказу 1905 г., калі большасць былых уніятаў вярнулася у каталіцызм, але ўжо ў лацінскі абрад. Таму сёння на тэрыторыі седлецкай дыяцэзіі грэка-католікаў няма.

Пра духоўныя карані гэтай зямлі нагадваў удзел у папскай Імшы 5 тыс. грэка-католікаў і епіскапату УГКЦ на чале з Уладыкам Любамірам Гузарам, намеснікам Вярхоўнага арцыбіскупа Львоўскага і Мітрапалітам Варшаўска-Перамышльскім Янам Мартынякам. Святое Евангелле было праспявана на дзвюх мовах – па-польску і па-царкоўнаславянску. У ліку канцэлебрансаў былі і беларускія біскупы лацінскага абраду – кардынал Казімір Свёнтэк і біскуп Аляксандр Кашкевіч.

"Мучанікі з Пратуліна даюць свету сведчанне сваёй веры, нагадваючы нам, што Хрыстус заклікаў і паслаў усіх сваіх вучняў, каб у вяках, аж да канца дзён яны былі абвяшчальнікамі і вестунамі надыходу Ягонага валадарства. Гэты усеагульны заклік да сведчання аб Хрысце вельмі выразна нагадаў Другі Ватыканскі сабор у Дэкрэце аб апостальстве свецкіх: "Сам (...) Пан (...) зноў запрашае усіх свецкіх, каб яны штодня ядналіся з ім яшчэ мацней і, лічачы Ягоную справу сваёй уласнай, аб'ядноўваліся ў Ягоным збаўчым пасланніцтве" (н. 33) Гэтае саборнае запрашэнне асабліва актуальнае менавіта цяпер, калі набліжаецца трэцяе тысячагоддзе. Вуснамі Айцоў Сабора Хрыстус прамаўляе не толькі да біскупаў, святароў, законнікаў, законніц, але таксама і да ўсіх сваіх вучняў напрыканцы дваццатага стагоддзя. Сёння, паказваючы на прыклад трынаццаці мужчынаў з Пратуліна, асаблівым чынам Ён скіроўвае яго да вас", – сказаў Папа ў часе гаміліі.

Пілігрымы час ад часу скандзіравалі: "Няхай жыве Папа!", "Вітаем цябе"! Святы Айцец коратка прывітаў пілігрымаў з былога СССР на іх родных мовах – па-беларуску, па-ўкраінску і па-руску. Беларусам ён сказаў: "Дарагія вернікі, якія прыбылі з Беларусі! З вялікай любоўю вітаю вас і запэўніваю ў маёй малітве за вас, за вашыя сем'і і вашу Айчыну. Няхай Бог ахоўвае вас і вашыя супольнасці заступніцтвам Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святых апекуноў вашага ўзлюбленага народу, да якіх звяртаюся ў сардэчных думках".

Урачыстасць у Седльцах яскрава прадэманстравала універсальнае аблічча Касцёла – яго паўсюднасць, адкрытасць для розных абрадаў і культураў. Адзінства ўсходніх хрысціянаў з заходнімі – гэта рэчаіснасць, жывы вопыт, і менавіта пра яго сведчылі тысячы грэка-католікаў на сустрэчы з Папам.

Увечары таго ж дня Святы Айцец узначаліў экуменічную Літургію Слова ў Драгічыне- над-Бугам, у якой прыняла ўдзел вялікая колькасць праваслаўных беларусаў з Беласточчыны.

*Сяргей СТАСЕВІЧ*
*Фота аўтара*

# PIELGRZYMKA OJCA ŚWIĘTEGO JANA PAWŁA II DO POLSKI

## Fragment homilii na pl. Piłsudskiego w Warszawie (beatyfikacja 108 męczenników)

***«Błogosławieni miłosierni, albowiem oni miłosierdzia dostąpią» (Mt 5, 7).***

*Umiłowani Bracia i Siostry!*

Ze słowami tego Chrystusowego błogosławieństwa zatrzymuję się na moim pielgrzymim szlaku pośród was - ludu Bożego Warszawy. Serdecznie pozdrawiam wszystkich tutaj zgromadzonych: kaplanów, zakonników i siostry zakonne oraz wiernych świeckich. Słowa braterskiego pozdrowienia kieruję do księży biskupów, zwłaszcza do księdza Prymasa i współpracujacych z nim biskupów archidiecezji warszawskiej.

Dziękuję Opatrzności Bożej, iż dane mi jest ponownie stanąć na tym miejscu, na którym przed dwudziestu laty, w pamiętną wigilię Zeslania Ducha Świętego, w sposób szczególny przeżywaliśmy tajemnicę Wieczernika. Wraz z Prymasem Tysiąclecia, kardynałem Stefanem Wyszyńskim, z biskupami i licznie zgromadzonym Ludem Bożym stolicy zanosiliśmy wtedy gorące wołanie o dar Ducha Świętego. W tamtych trudnych czasach przyzywaliśmy Jego mocy, aby rozlała się w sercach ludzi i obudziła w nich nadzieję. Było to wołanie płynące z wiary, ze Bóg działa i mocą Ducha Świętego odnawia i uświęca wszystko. Było to wołanie o odnowę oblicza ziemi, tej ziemi — Niech zstąpi Duch Twój i odnowi oblicze ziemi. Tej ziemi. Jakże dziś nie dziękować Bogu w Trójcy Jedynemu za to wszystko, co na przestrzeni ostatnich dwudziestu lat odczytujemy jako Jego odpowiedź na tamto nasze wołanie!

Czyż nie jest odpowiedzią Boga to, co w tym czasie dokonało się w Europie i w świecie, poczynając od naszej ojczyzny? Na naszych oczach następowały przemiany systemów politycznych, społecznych i gospodarczych, dzięki którym poszczególne osoby i narody na nowo ujrzały blask swojej godności. Prawda i sprawiedliwość odzyskują swoją wartość, stając się palącym wyzwaniem dla wszystkich, którzy doceniają dar swej wolności. Za to dziękujemy Bogu, patrząc z nadzieją w przyszłość.

Nade wszystko jednak oddajemy Mu chwałę za wszystko, co to dwudziestolecie wniosło w życie Kościoła. Jednoczymy się zatem w dziękczynieniu z Kościołami tradycji zachodniej i wschodniej pośród ludów nam bliskich, które wyszły z katakumb i otwarcie pełnią swą misję. Ich żywotność jest wspaniałym świadectwem mocy Chrystusowej łaski, która uzdalnia słabych ludzi do heroizmu posuniętego nierzadko aż do męczeństwa. Czy nie jest to owoc działania Bożego Ducha? Czy nie dzięki temu tchnieniu Ducha w najnowszej historii mamy dziś niepowtarzalną sposobność doświadczania powszechności Kościoła i naszej odpowiedzialności za świadectwo o Chrystusie i za głoszenie Jego Ewangelii «aż po krańce ziemi» *(Dz 1, 8)*?

W swietle Ducha Świętego Kościół w Polsce odczytuje na nowo znaki czasu i podejmuje swoje zadania, wolny od zewnętrznych ograniczeń i nacisków, jakich doznawał jeszcze nie tak dawno. Jak tu nie dziękować dziś Bogu za to, że w duchu wzajemnego szacunku i miłości Kościół może prowadzić twórczy dialog ze światem kultury i nauki! Jak nie dziękować za to, że ludzie wierzący mogą bez przeszkód przystępować do sakramentów i słuchać słowa Bożego, aby potem otwarcie dawać świadectwo swej wiary! Jak nie oddawać chwały Bogu za te mnogość świątyń wybudowanych ostatnio w naszym kraju! Jak nie dziękować za to, że dzieci i młodzież mogą ze spokojem poznawać Chrystusa w szkole, w której obecność kapłana, siostry zakonnej czy katechety lub katechetki jest postrzegana jako cenna pomoc w pracy nad wychowywaniem mlodego pokolenia! Jak nie chwalic Boga, który swoim Duchem ożywia wspólnoty, stowarzyszenia, ruchy kościelne, i sprawia, że misja ewangelizacji jest podejmowana przez coraz szersze kręgi ludzi świeckich!

Kiedy podczas mej pierwszej pielgrzymki do Ojczyzny stałem na tym samym miejscu, cisnęła sie na myśl modlitwa Psalmisty:

*«Pamiętaj o nas, Panie, gdyż masz upodobanie w swym ludzie. Przyjdź nam z pomocą, abyśmy ujrzeli szczęście Twych wybranych, radowali się radością Twojego ludu, chlubili się razem z Twoim dziedzictwem»* (106[105], 4-5).

Dziś, gdy patrzymy o 20 lat wstecz, przypomina sie wezwanie z tego samego Psalmu:

*«Chwalcie Pana, bo dobry, bo na wieki Jego laskawość. Któż opowie dzieła potęgi Pana, ogłosi wszystkie jego pochwały? Błogosławiony Pan (. . . ) od wieków na wieki!»* (1-2, 48).

**«Błogosławieni miłosierni, albowiem oni miłosierdzia dostąpią»** ***(Mt 5, 7).***

Liturgia dzisiejszej niedzieli nadaje naszemu dziękczynieniu szczególny charakter. Pozwala bowiem zobaczyć wszystko, co dokonuje się w historii tego pokolenia, w perspektywie odwiecznego Bożego miłosierdzia, które najpełniej objawiło się w zbawczym dziele Chrystusa. «On to został wydany za nasze grzechy i wskrzeszony z martwych dla naszego usprawiedliwienia» *(Rz 4, 25)*. Paschalne misterium śmierci i zmartwychwstania Syna Bożego nadało ludzkiej historii nowy bieg. Jeżeli obserwujemy w niej bolesne znaki działania zła, to mamy pewność, że ostatecznie nie może ono zapanować nad losami świata i człowieka. Nie może ono zwyciężyć. Ta pewność płynie z wiary w miłosierdzie Ojca, który «tak umiłował świat, iż Syna swego Jednorodzonego dał, aby każdy, kto w niego wierzy, nie zginął, ale miał życie wieczne» *(J 3, 16)*. Dlatego dziś, kiedy św. Paweł wskazuje na wiare Abrahama, «który nie okazał wahania ani nie dowierzania co do obietnicy Bożej, ale się wzmocnił w wierze» *(Rz 4, 20)*, pozwala nam dostrzec źródło tej siły, dzięki której nawet najcięższe doświadczenia nie były w stanie oderwać nas od miłości Boga.

Dzięki wierze w Boże miłosierdzie trwała w nas nadzieja. Nie odnosiła się ona jedynie do społecznego odrodzenia i przywrócenia godności człowiekowi w wymiarach doczesności. Nasza nadzieja sięga o wiele głębiej, kieruje się ku Bożym obietnicom, które wykraczają daleko poza doczes-

ność. Jej ostatecznym przedmiotem jest udział w owocach zbawczego dzieła Chrystusa. Może nam być poczytana za sprawiedliwość, jezeli «wierzymy w Tego, co wskrzesił z martwych Jezusa, Pana Naszego» *(Rz 4, 24)*. Tylko bowiem nadzieja płynąca z wiary w zmartwychwstanie może nas pobudzić do dawania w codziennym życiu godnej odpowiedzi na niezmierzoną miłość Boga. Jedynie z tą nadzieją możemy iść do tych, «którzy się źle mają» *(Mt 9, 12)*, i być apostołami Bożej, uzdrawiającej miłości. Jeżeli przed dwudziestu laty mówiłem, iż «Polska stała się w naszych czasach ziemią szczególnie odpowiedzialnego świadectwa» (*«Homilia na placu Zwycięstwa»*, 2.06.1979), to dziś trzeba dodać, że musi to być świadectwo czynnego miłosierdzia, zbudowane na wierze w zmartwychwstanie. Tylko takie świadectwo jest znakiem nadziei dla współczesnego człowieka, zwłaszcza dla młodego pokolenia; a jeśli dla niektórych jest ono również «znakiem sprzeciwu», to niech ten sprzeciw nigdy nas nie odwiedzie od wierności Chrystusowi ukrzyżowanemu i zmartwychwstałemu.

«*Omnipotens aeterne Deus, qui per glorificationem Sanctorum novissima dilectionis tuae nobis argumenta largiris, concede propitius, ut, ad Unigenitum tuum fideliter imitandum, et ipsorum intercessione commendemur, et incitemur exemplo*» - tak modli sie Kościół, wspominając w Eucharystii świętych i święte: «Wszechmogący, wieczny Boże, Ty dajesz nam nowe dowody swojej miłości, gdy pozwalasz Świętym uczestniczyć w Twojej chwale, spraw, aby ich modlitwa i przykłady pobudzały nas do wiernego nasladowania Twojego Syna» (*Comune sanctorum et sanctarum, Collecta*). Takie też wołanie zanosimy dzisiaj, gdy podziwiamy przykład świadectwa, jakie dają nam wyniesieni przed chwilą do chwały ołtarzy blogoslawieni. Żywa wiara, niezachwiana nadzieja i ofiarna miłość zostały im poczytane za sprawiedliwość, bo głęboko tkwili w paschalnym misterium Chrystusa. Słusznie zatem prosimy, abyśmy za ich przykładem wiernie podążali za Chrystusem.

(...)

«*Munire digneris me, Domine Jesu Christe(...), signo sanctissimae Crucis tuae: ac concedere digneris mihi (...) ut, sicut hanc Crucem, Sanctorum tuorum reliquiis refertam, antepectus meum teneo, sic semper mente retineam et memoriam passionis, et sanctorum victorias Martyrum*» - oto modlitwa, jaką odmawia biskup, zakładając krzyż pektoralny: «Racz mnie umocnić, Panie, znakiem Twego Krzyża, i spraw, abym tak, jak ten krzyż z relikwiami świętymi noszę na swojej piersi, tak zawsze miał w myśli i pamięć Twojej męki, i zwycięstwo, jakie odnieśli Twoi męczennicy». Dziś czynię to wezwanie modlitwą całego Kościoła w Polsce, który niosąc od tysiąca lat znak męki Chrystusa, wciąż odradza się z posiewu krwi męczenników i żyje pamięcią zwycięstwa, jakie oni odnieśli na tej ziemi.

Dziś właśnie świętujemy to zwycięstwo. Świętujemy zwycięstwo tych, którzy w naszym stuleciu oddali życie dla Chrystusa, oddali życie doczesne by posiąść je na wieki w Jego chwale. Jest to zwycięstwo szczególne, bo dzielą je duchowni i świeccy, młodzi i starzy, ludzie różnego pochodzenia i stanu. Pośród nich jest arcybiskup Antoni Julian Nowowiejski, pasterz diecezji płockiej, zamęczony w Działdowie; jest biskup Władysław Goral z Lublina torturowany ze szczególną nienawiścią tylko dlatego, że był biskupem katolickim. Są kapłani diecezjalni i zakonni, którzy ginęli, gdyż nie chcieli odstąpić od swojej posługi, i ci, którzy umierali, posługując współwięźniom chorym na tyfus; są umęczeni za obronę Żydów. Są w gronie błogosławionych bracia i siostry zakonne, którzy wytrwali w posłudze miłości i w ofiarowaniu udręk za bliźnich. Są wśród tych błogosławionych męczenników również ludzi świeccy. Jest pięciu młodych mężczyzn ukształtowanych w salezjańskim oratorium; jest gorliwy działacz Akcji Katolickiej, jest świecki katecheta zamęczony za swą posługę i bohaterska kobieta, która dobrowolnie oddała życie w zamian za swą brzemienną synową. Ci błogosławieni męczennicy i męczennice wpisują się w dzieje świętości Ludu Bożego pielgrzymującego od ponad tysiąca lat po polskiej ziemi.

Jeśli dzisiaj radujemy się z beatyfikacji stu ośmiu męczenników duchownych i świeckich, to przede wszystkim dlatego, że są oni świadectwem zwycięstwa Chrystusa - darem przywracającym nadzieję. Gdy bowiem dokonujemy tego uroczystego aktu, niejako odżywa w nas wiara, iż bez względu na okoliczności, we wszystkim możemy odnieść pełne zwycięstwo dzięki Temu, który nas umiłował *(por. Rz 8, 37)*. Błogosławieni męczennicy wołają do naszych serc: Uwierzcie, że Bóg jest miłością! Uwierzcie na dobre i na złe! Obudźcie w sobie nadzieję! Niech ta nadzieja wyda w was owoc wierności Bogu we wszelkiej próbie!

Raduj się, Polsko, z nowych błogosławionych: Reginy, Edmunda i 108 Męczenników. Spodobało się Bogu «wykazać przemożne bogactwo Jego łaski na przykładzie dobroci» twoich synów i córek w Chrystusie Jezusie *(por. Ef 2, 7)*. Oto «bogactwo Jego łaski», oto fundament naszej niewzruszonej ufności w zbawczą obecność Boga na drodze człowieka w trzecim tysiącleciu! Jemu niech będzie chwała na wieki wieków. Amen.




*Пілігрымка моладзі з Беларусі ў Варшаве*

# Рэкалекцыі цвярозасці ў Лаздунах

У сярэдзіне мая ў вёсцы Лаздуны Іўеўскага раёна адбыліся першыя ў нашай краіне рэкалекцыі цвярозасці. У іх прынялі ўдзел амаль 60 чалавек з Баранавічаў, Мінска, Слоніма, Дзятлава, Гродна, а таксама са Шчэціна (Польшча). У асноўным усе яны з'яўляюцца сябрамі групаў АА (ананімных алкаголікаў).



Падчас Крыжовай Дарогі

Арганізаваў і правёў гэтую сустрэчу мясцовы пробашч кс. Мар'юш Ільяшэвіч. Адзін з прысутных польскіх святароў таксама належаў да супольнасці АА і на ўласным вопыце ведаў цяжкасці тых, хто вырашыў змагацца з гэтай хваробай. Крыжовая Дарога, якую ён праводзіў падчас сустрэчы, прымусіла многіх упершыню задумацца над сэнсам збаўчай ахвяры Езуса Хрыста. Юрый Н. са Слоніма, падпалкоўнік у адстаўцы, сказаў падчас нашай размовы: «Я з малых гадоў баяўся касцёла. Можа, у школе запалохалі, не ведаю, але зараз я ўпершыню пераступіў парог каталіцкай святыні. Мне вельмі спадабалася тут, а Крыжовая Дарога Езуса Хрыста наогул перавярнула усю душу...»

Алкагалізм – цяжкая хвароба, якая не шкадуе нікога: ні ўрача, ні інжынера, ні нават святара. Гэта сапраўдная жыццёвая трагедыя. Вельмі важна ўсвядоміць, прызнацца перад самім сабою і іншымі, што ты – алкаголік. Такое прызнанне – першы крок на шляху да выратавання. Пра гэта і іншае размаўлялі ўдзельнікі рэкалекцыяў у сваіх групах, а таксама ўвечары каля вогнішча. Абмяркоўвалі праблемы, з якімі сутыкаюцца групы АА і сведчылі. Сведчылі пра сваё жыццё, пра прасвятленне. «Мне 23 гады і я ўжо алкагалічка, – сказала Наталля з Гродна. – Сваю трагедыю я ўсвядоміла ў групе АА, пра якую даведалася ў наркалагічным аддзяленні бальніцы, дзе праходзіла курс лячэння. Цяпер маю новых надзейных сяброў, без якіх проста прапала б. Маці мая жыве з айчымам і фактычна выракалася мяне, бо не верыць, што я змянілася. Да таго ж, яна даведалася пра маю цяжарнасць (уже амаль пяць месяцаў) і запатрабавала зрабіць аборт. Я не згадзілася і жыву цяпер у сяброў, бо бацька дзіцяці, якога нашу пад сэрцам, загінуў. Я вельмі чакаю нараджэння гэтага дзіцяткі, дзеля яго і хачу жыць. Мне здаецца, што яно мяне выратуе...»

Немагчыма было не заўважыць бязмежнай павагі сабраных да ўрача-нарколага з Дзятлава Віктара Белавуса. Ён сам прайшоў пекла гэтай хваробы і цяпер, па словах сваіх шматлікіх сяброў, з'яўляецца такім цудоўным доктарам, якіх больш няма на Беларусі. Гучалі словы падзякі Пану Богу – падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту, Крыжовай Дарогі. Станіслаў Шufляк са Шчэціна сведчыў: «Пане Божа, я хачу тут Табе падзякаваць за таго святара, які ў самыя цяжкія хвіліны майго жыцця падаў руку і абцёр мой твар, як гэта зрабіла святая Вераніка для Езуса. З-за свайго п'янства я стаў адрынутым. Не раз мне, як і Табе, Пане, плявалі ў твар. Я стаў бамжом, амаль страціў зрок, не мог хадзіць. Ніхто не хацеў падаць мне рукі. Толькі той святар паверыў у мяне і сказаў, што ўсё можа быць паіншаму, і паказаў мне дарогу ў групу АА. З маіх вачэй упала заслона, якая аддзяляла мяне ад Бога. Аднак напачатку трэба было змяніцца ўнутрана. Гэтую змену я адчуў пасля Сакрамэнту споведзі. Усвядоміў, што не магу вызваліцца са страшэннага палону. Тады я пачаў маліцца з усіх сілаў: «Пане Езу, памажы мне, я не магу больш так жыць!» І Ты, Езу, пачуў мяне, падаў сваю руку. Цяпер я разумею, што Ты – мой галоўны Памочнік і Настаўнік. Дзякую за Тваю Міласэрнасць!»

Тры дні рэкалекцыяў цвярозасці праляцелі вельмі хутка. Развітваючыся, удзельнікі дамовіліся ізноў сабрацца тут 3 верасня, ужо са сваімі сем'ямі. Некалькі чалавек нават папрасілі кс. Мар'юша ўдзяліць ім у той час Сакрамэнт шлюбу.

*Галіна КАЛЕВІЧ*
*Фота З.СОРДЫЛЬ*



Удзельнікі рэкалекцыяў АА

# «Гэта хлеб, што зышоў з неба»

*(Ян 6, 58)*


Мінск. Эўхарыстычная працэсія на вул. Леніна

***Сёлета на свята Цела і Крыві Пана Эўхарыстычны Езус ізноў трыумфальна прайшоў вуліцамі беларускіх гарадоў. На жаль, далёка не ўсіх.***

3 чэрвеня кардынал Казімір Свёнтэк узначаліў урачыстасці ў Пінску. «Як на нашыя ўмовы, то парадак панаваў ідэальны», – паведаміў агенцтву КАІ кс. кардынал, дадаўшы, што «міліцыя ў гэтым годзе ачапіла ўсе вуліцы, якімі мы ішлі, дзякуючы чаму не было такіх здарэнняў, як у мінулыя гады. Тады машыны часам спрабавалі перасячы нам шлях, бо не было знакаў аб'езду». Больш за палову ўдзельнікаў сёлетняй працэсіі ў Пінску складалі дзеці і моладзь.


6 чэрвеня, катэдра Імя НМП. Заканчэнне працэсіі

6 чэрвеня ад алтара каля мінскага касцёла св. Роха на Залатой Горцы вырушыла працэсія па маршруце: плошча Перамогі – Чырвоны касцёл – Катэдра. Як ніколі раней, яна прыцягнула ўвагу вялікай колькасці звычайных прахожых, многія з якіх плакалі, кленчылі прама на тратуары. Малітоўнаму настрою спрыяла і надвор'е: нягледзячы на спёку, дзьмуў лёгкі ветрык. Пры апошнім алтары – каля Катэдры – Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк прамовіў кароткую гамілію і блаславіў сабраных Найсвяцейшым Сакрамэнтам.

**С. К.**

**Фота З.СОРДЫЛЬ**

## Алексій II: візіт Папы ў Расію немагчымы

Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II не лічыць магчымым прыезд Папы Яна Паўла II у Маскву. Галоўная прычына гэтага – сітуацыя на Заходняй Украіне, "дзе ў нас забралі рускія праваслаўныя храмы", – паведаміў Патрыярх у інтэрв'ю аўстрыйскаму часопісу "Фокус". Алексій II падкрэсліў, што праваслаўныя вернікі выгнаны з цэркваў, нягледзячы на тое, што Другі Ватыканскі Сабор назваў праваслаўныя Цэрквы "сёстрамі". Аднак тыя храмы, якія мае на ўвазе Патрыярх, былі пабудаваны як грэка-каталіцкія, і толькі пасля 1946 г. пры дапамозе савецкай улады былі аддадзены Маскоўскай Патрыярхіі. Калі ў 1989 г. грэка-каталіцкая Царква на Украіне была нарэшце легалізавана, яна справядліва пачала дамагацца вяртання сваіх царкоўных будынкаў. У сувязі з тым, што праваслаўныя не жадалі нічога аддаваць, дзе-нідзе пры перайманні святыняў мелі месца гвалтоўныя дзеянні, пра сам факт якіх застаецца толькі шкадаваць. Патрыярх Алексій II мае рацыю толькі ў тым выпадку, калі лічыць Маскоўскую Патрыярхію спадкаемніцай Уніі, з чым цяжка пагадзіцца як Рыму, так і 5 мільёнам украінскіх грэка-католікаў.

**А. С.**

## Ватыкан: новы дакумент пра манаскае жыццё

Кангрэгацыя інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця абвясціла новы уклад інструкцый для кляўзуровых кляштараў пад назваю "Verbi Sponsa". У іх падкрэсліваецца, што падобныя пляцоўкі "выключна неабходныя" для жыцця Касцёла, бо яны даюць "адназначнае і радыкальнае" сведчанне любові да Бога. Новы дакумент праводзіць дыферэнцыяцыю кляўзуровага жыцця, а таксама разбірае прынцыпы і рэгулы, якімі кіруюцца такія законы. Асаблівая ўвага ўдзяляецца тым законам, якія маюць выключна сузіральны характар і не праводзяць ніякай знешняй дзейнасці. Іх рэгулы павінны зацвярджацца Апостальскай Сталіцай.

**KAI**

## Каштоўны падарунак

Унучкі нашага славутага земляка Марка Шагала — М.Маер Грабэр і Бэла Маер зрабілі Віцебску вельмі каштоўны падарунак. У дар гораду яны перадалі 96 афортаў да «Мёртвых душ» Мікалая Гогаля, зробленых у 1923-1925 гадах, і серыю каляровых ілюстрацый да Бібліі.

**А. РАМАНОВІЧ**

***У дзень св.Яна Хрысціцеля ў Пінскай катэдры адбылася гістарычная падзея: біскупскую сакру з рук Яго Эмінэнцыі кардынала К.Свёнтка атрымаў кс.біскуп Казімір Велікаселец. Ва ўрачыстасці прымалі ўдзел нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Д.Грушоўскі, ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп А.Кашкевіч з дапаможным біскупам А.Дзямянкам, а таксама біскуп Драгічынскай дыяцэзіі А.Дыдыч (Польшча), дапаможны біскуп Э.Самсэль (Элцкая дыяцэзія – Польшча), дапаможны біскуп Р.Карпіньскі (Люблінская дыяцэзія – Польшча), прадстаўнікі закону Дамініканаў і іншых кангрэгацый і законаў, больш за 60 святароў з усіх дыяцэзій Беларусі, шматлікія вернікі.***

***Рэпартаж з біскупскага пасвячэння чытайце ў чарговым нумары часопіса "Наша вера".***



# ПАПСКАЯ БУЛЛА

Ян Павел Біскуп, слуга слуг Бога ўмілаванаму сыну Казіміру Велікасельцу, члену Закона Дамініканаў, які ў дадзены момант выконвае абавязкі Генеральнага вікарыя Пінскай дыяцэзіі лацінскага абраду, а таксама дзекана і пробашча ў г.Баранавічы, пакліканаму на пасаду Дапаможнага Біскупа гэтай жа Пінскай дыяцэзіі лацінскага абраду з тытулярнаю біскупскаю сядзібаю ў Бланданах, – прывітанне і апостальскае благаславенне.

Дзякуючы незвычайнай моцы Божага Провіду сталася, што вера і дзейнасць верных католікаў умілаванай Пінскай каталіцкай супольнасці лацінскага абраду ў апошнія гады цудоўным чынам узраслі па колькасці вернікаў і па энтузіязме, гэтая аўчарня Хрыста ўзмацняецца, вызнаючы Евангелле. З гэтага вельмі радуецца Маці Касцёл.

Маючы на ўвазе гэтую рэальнасць, слушна пастуліў шаноўны брат Наш Яго Эмінэнцыя Кардынал Казімір Свёнтэк, Арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі лацінскага абраду і Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі лацінскага абраду, што звярнуўся ў Апостальскую Сталіцу з просьбаю даць яму Дапаможнага Біскупа, каб дзяліў з ім цяжар апостальства і ўдзельнічаў у працы, якая ўсё больш павялічваецца.

І Мы, праяўляючы сардэчны клопат аб касцёлах у свеце, мяркуем, што няма нічога больш важнага і раднага, як ахвотна адказаць на гэтую просьбу. Таму, ужываючы паўнату нашай Апостальскай улады, устанаўліваем цябе, умілаваны сын, Дапаможным Біскупам вышэй названай Пінскай дыяцэзіі лацінскага абраду, аднаачасова адорваючы цябе тытулам неіснуючай сёння архідыяцэзіі Бланданы.

Ускладаем на цябе ўсе абавязкі і адорваем прывілеямі, а таксама ўсе іншыя (абавязкі), якія вынікаюць з Касцёльнага права і застаюцца ў лучнасці з біскупскаю ўладаю, як таксама тыя, якія датычаць функцыі Дапаможнага Біскупа. Калі ўрачыста складзеш вызнанне веры і прысягу вернасці Нам і Нашым Наступнікам, прымеш біскупскую сакру па-за Рымам.

Дарагі брат, тыя святарскія дабрадзейнасці, якія ты праявіў, усе поспехі і прыроджаныя здольнасці, старайся прымяняць, клапоцячыся аб святарах і верніках, аднаўляючы дабрадзейнасці і з падвойнай руплівасцю служачы Хрысту.

*Дадзена ў Рыме, у св.Пятра, дня 6 мая 1999 г., Пантыфікату Нашага 21 года.*

***Ян Павел II, Папа.***

## На парозе трэцяга тысячагоддзя

Сусветная грамадскасць рыхтуецца да святкавання 2000 ўгодкаў хрысціянства. Юбілейныя мерапрыемствы пройдуць і ў нашай краіне. Дзеля гэтага створаны Нацыянальны аргкамітэт, які ўзначаліў кіраўнік беларускага ўрада Сяргей Лінг. На дзяржаўным узроўні распрацаваны план святочных мерапрыемстваў.

Значная ўвага ў ім удзяляецца царкве. Так, плануецца дапамагчы каталіцкаму Касцёлу і праваслаўнай Царкве завяршыць рэстаўрацыю 4 касцёлаў і 8 цэркваў. Акрамя таго, дзяржава, магчыма, выдзеліць сродкі на рамонт касцёлаў у Гродне і Нясвіжы.

## Адраджэнне "Тайнай вячэры"

У канцы мая, упершыню пасля шматгадовай рэстаўрацыі, шырокая грамадскасць змагла зноў убачыць "Тайную вячэру" Леанарда да Вінчы, якая з канца 70-х гадоў аднаўлялася групай рэстаўратараў пад кіраўніцтвам



Пініна Брамбіла.

Цалкам праца яшчэ не завершана, аднак было вырашана прадэманстраваць вынікі рэстаўрацыі сценаў міланскага храма Святой Марыі, каб мастацтвазнаўцы выказалі свае меркаванні наконт новага выгляду аднаго са славутых твораў вялікага італьянца. Тая "Тайная вячэра", якую добра ведаюць ва ўсім свеце, вельмі далёкая ад арыгіналу, які стварыў Леанарда да Вінчы.

На думку канадскай мастачкі Шэйлы Сміт, "да рэстаўрацыі "Тайная вячэра" мела вельмі жахлівы выгляд. Не тое, што зараз. Напэўна, гэта ўсё ж такі лепш".

***Сяргей ЮР'ЕЎ***





# Узняўся з руінаў

Здаўна на левым беразе ракі Гайны, якая бяжыць да мора праз Лагойск, стаяў рыма-каталіцкі касцёл. 19 чэрвеня ў нашым горадзе адбылася знамянальная падзея – урачыстая кансэкрацыя адроджанага касцёла святога Казіміра. З гэтай нагоды сюды з'ехаліся госці не толькі з Беларусі, але з Польшчы і Аўстрыі: тыя, для каго лагойскі касцёл стаў першым у жыцці Домам Божым (кагосьці тут хрысцілі, нехта браў шлюб ці прымаў Першую Камунію).

Пробашч кс. Рышард Пежшала нагадаў пра гісторыю касцёла ў Лагойску. Першы храм быў пабудаваны ў 1604 г. графам Тышкевічам і праз 50 гадоў быў спалены маскоўскімі войскамі. Касцёл адбудавалі, але ў 1708 г. яго знішчылі шведы. Праз 70 гадоў за будаўніцтва новай святыні ўзяўся Антоні Тышкевіч, і ў 1791 г. ужо ягоны сын – Вінцэнт скончыў бацькаву задуму. Памятаюць тут таксама і пра тое, што ў 1806 г. граф Пій Тышкевіч упрыгожыў франтон касцёла, дабудаваўшы вежу з гадзіннікам. У такім выглядзе касцёл прастаяў да вайны. У 1968 г. узарвалі і яго.

У 1991 г. пры дапамозе арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча мясцовыя каталікі дабіліся перадачы зямельнага ўчастка, на якім стаяў касцёл, парафіі святога Казіміра. У драўлянай каплічцы, пабудаванай на святым месцы, пачаў адпраўляць Св. Імшу кс. Уладыслаў Завальнюк, які, дарэчы быў у ліку ганаровых гасцей на свяце.



Урачыстасць кансэкрацыі пачалася. Людзі ўтварылі жывы калідор, па якім сотні людзей за сваімі пастырамі ўвайшлі ў святыню пад цудоўныя гукі аргана і пабожныя спевы. Пасля кансэкрацыі кардынал Казімір падзякаваў за ахвярнасць кс. Рышарду, парафіянам, людзям добрай волі.

Касцёл у Лагойску пабудаваны і кансэкраваны. Няхай ён застанецца непарушным і трывалым на хвалу Божую і збаўленне душ людскіх.

***Л. ЗАГОРСКІ, Лагойск***
***Фота аўтара***
***і кс. А. КЛІМАНТОВІЧА***



*Так выглядае новазбудаваны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі у в.Асавая Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Ён быў кансэкраваны 3 ліпеня 1999 г. Апостальскім адміністратарам Пінскай дыяцэзіі кардыналам Казімірам Свёнткам. Пробашчам парафіі ў Асавой з'яўляецца кс. Генрык Тэлеман.*

## На вакацыі з Богам



Дзеці з мінскай парафіі Святой Тройцы на адпачынку ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна.



Ад'езд дзяцей з салезіянскай парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Мінску на адпачынак у Пятроўшчыну (Глыбоцкі раён).

*Фота А. КЛЕШЧУКА*

## Медытацыя для ўсіх

Малітва хрысціяніна можа быць вуснай альбо ўнутранай. Каталіцкія настаўнікі духоўнага жыцця – св. Тэрэса Авільская, св. Ігнацы Лаёла і іншыя рэкамендуюць спосаб унутранай малітвы, які называецца разважаннем або медытацыяй. Не трэба думаць, што так маліцца павінны толькі законнікі. Разумовая, медытацыйная малітва – гэта пабожная размова нашай душы з Богам, якую суправаджаюць разважанні, перажыванні і прыняцце рашэнняў. Яе мэта – дапамагчы нам удасканальвацца ў пазнаванні Бога, у любові да Яго і служэнні Яму. Практычна гэта азначае, што яна заахвочвае да таго, каб рабіцца лепшым.




Каб добра і з карысцю для сябе разважаць, трэба знайсці дасведчанага ў гэтай справе духоўнага кіраўніка. Добрым дапаможнікам можа быць таксама кніжка “Катехизис мысленной молитвы” Джозэфа Сімлера, выдадзеная дабрачынным фондам “Маці Божая Фацімская” (ЗША). Яе можна замовіць у нашай рэдакцыі.

## П А Д З Я К А

Выказваем сардэчную падзяку і нашыя найлепшыя пажаданні кс. Натанаэлю Вайтэле за падрыхтаванае для ўсіх нас свята Першай Камуніі. Хай Бог адорыць гэтага добрага святара шматлікімі ласкамі.

З малітваю бацькі, хросныя, сваякі дзяцей, якія прынялі Першую Камунію ў парафіі Асіповічы.

## Паважаныя чытачы!

У вашай парафіі, горадзе, мястэчку, вёсцы адбываюцца самыя розныя падзеі рэлігійнага жыцця. Напішыце нам пра ваша жыццё, падзяліцеся сваімі думкамі, праблемамі, задавайце пытанні, якія вас хвалююць. Таксама заклікаем вас распаўсюджваць «*Каталіцкія навіны*», часопісы «*Ave Maria*» і «*Наша вера*» сярод сваіх знаёмых, суседзяў, аднавяскоўцаў. Звяртайцеся з гэтым да свайго пробашча або непасрэдна ў рэдакцыю. Мы заўсёды рады вашым лістам.

***Рэдакцыя «Каталіцкіх навінаў»***

## КОРАТКА

● Доўгі час быў невядомым лёс дапаможнага біскупа Скапійска-Прызрэнскай дыяцэзіі Марка Сопі, які не пакінуў Косава, нягледзячы на авіяналёты і масавыя ўцёкі албанскага насельніцтва. Нарэшце стала вядома, што з ім усё ў парадку. Ардынарый гэтай дыяцэзіі біскуп Яўхім Хэрбут (рэзідэнцыяй якога з'яўляецца Скоп'е – сталіца Македоніі) паведаміў 10 чэрвеня, што «біскупа Сопі прызнаюць сербы і таму ён хацеў застацца ў Прызрэне».

● Папа – гэта для людзей «жывая рэлігія», – заявіў у інтэрв'ю агенцтву КАІ прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус. 8 чэрвеня прэзідэнт сустрэўся з Янам Паўлам II ў Элку падчас Апостальскага візіту Папы у Польшчу. «Мы, літоўцы, жадаем яму ўсяго найлепшага і верым, што Бог захавае яго для нас як найдаўжэй», – заявіў Адамкус.

● Ва ўзросце 71 гадоў памёр вядомы канадскі евангелізатар і харызматык а. Эміліен Тардзіф. Ад пачатку 80-х гадоў дзякуючы яго набажэнствам аздараўлення сотні людзей – сляпых, спаралізаваных, глуханямых, ізноў атрымалі цялеснае здароўе. У вядомай кнізе «Езус жыве» ён сцвярджае, што Хрыстус, які рэальна прысутнічае ў касцёльнай супольнасці, сёння працягвае чыніць цуды.

● 17 чэрвеня ў Лондане памёр старшыня Канферэнцыі Біскупаў Англіі і Уэльса кардынал Джордж Бэзіл Х'юм (1923-1999). Два месяцы таму у яго знайшлі анкалагічнае захворванне. За дваццаць гадоў свайго арцыпастырскага служэння кардынал Х'юм здолеў зрабіць свой Касцёл неад'емнай часткай брытанскага грамадства. Бенэдыктын Бэзіл Х'юм быў першым з часоў Рэфармацыі законнікам на пасадзе арцыбіскупа Вестмінстэра.

**Каталіцкія навіны.** № 6(44)/1999. Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла.
Рэг. № 686. **Адрас рэдакцыі:** пл.Свабоды 9, 220030 Мінск. **Факс** (017) 226-90-92. **E-mail:** maria@maria.belpak.minsk.by.
Падпісана да друку 30.06.99. Фармат 62 1/8. Наклад 3000 экз. Зак.40. Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836. Вул.Чкалава,14
Акрамя матэрыялаў уласных карэспандэнтаў у нумары выкарыстаны паведамленні замежных выданняў і агенцтва КАІ.